Цана 15 гр. „Biełaruski Front“ 15 lipca 1939 г. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 14 (48) Вільня, 15 ліпня 1939 г. Год IV

## Аб беларуска-літоўскіх адносінах.

Артыкулы аб беларуска-літоўскіх (і літоўска-беларускіх адносінах можна было спаткаць у беларускай прэсе даволі рэдка. Прычын гэтага зьявішча трэба шукаць ня так у тым пракананьні, што ў гэтых адносінах „ўсё добра“, як у тых спэцыфічных варунках, у якіх гэтыя адносіны ўкладываліся. У беларускім грамадзянстве можна было пачуць галасы, што ў *цяперашніх* варунках беларусы і літоўцы зьяўляюцца натуральнымі саюзьнікамі і што гэтых адносін ня варта псаваць. Тымболей ня варта зачапаць „дражлівых спраў“, як справа Вільні і Віленшчыны, да каторых літоўцы маюць прэтэнсію, а такжа справу адносін літоўцаў да беларускага насельніцтва, каліб такім ці іншым парадкам Літве ўдалося далучыць да сябе беларускія абшары.

Мы ўважаем, што *заўсёднае* маўчаньне ў гэтых справах шкоднае — і то шкоднае ня толькі для беларусаў, але і для літоўцаў. Гэтыя апошнія магліб угрунтавацца ў сваім пракананьні, што беларусы згаджаюцца з усімі літоўскімі палітычнымі мэтамі і ў рэзультаце Літва маглаб стварыць для сябе вялікія ілюзіі і падобныя труднасьці, якія нядаўна перажывала. Маўчаньне бел. прэсы ў гэтых справах маглоб на падставе старога правіла „хто маўчыць, той відаць згаджаецца“ стварыць пракананьне, што беларусы адракаюцца ад сваіх правоў на сваіх этнаграфічных тэрыторыях. Тымчасам беларускае грамадзянства не адракаецца ад сваіх правоў і не згаджаецца з тымі мэтамі, якія выпрацавала літоўская палітычная думка адносна беларускіх этнаграфічных земляў.

Калі падымаем гэтыя справы, дык робім гэта ня дзеля „завастраньня“ адносін, але дзеля *высьвятленьня* іх. Уважаем, што ясная пастанова справы ня можа завастрыць адносін паміж двама суседнімі народамі, але павінна скіраваць гэтыя адносіны ў належнае рэчышча. Каб ясьней прадставіць сабе сутнасьць гэтых адносін, прасьледзім іх фазы ў недалёкай мінуўшчыне і выкажам як *беларуска*-літоўскія адносіны, так і *літоўска*-беларускія. Возьмем на пачатак першыя.

У адносінах беларусаў да літоўцаў можна было спасьцерагчы ў вапошніх часах некулькі фазаў. *Першая фаза:* беларусы ў 1917 годзе афіцыяльна зварочваюцца да літоўцаў з прапазыцыяй супрацоўніцтва з мэтай адбудовы б. В. Княства Літоўска-Беларускага. Беларусы ў сваей прапазыцыі мелі на мэце ня толькі слаўную мінуўшчыну, але такжа і будучыню, у якой пры супрацоўніцтве быліб між іншым аўтаматычна вырашаны і ўсе спрэчныя тэрытарыяльныя справы паміж двама народамі. Аднак літоўцы гэтую прапазыцыю адкінулі. (Шырэй аб гэтым гл. „Бел. Фр.“ № 7. 1936.). *Другая фаза:* беларускі народ прабуе тварыць сваю дзяржаву і ў сакавіку 1918 году абвяшчае незалежнасьць свайго краю ў яго этнаграфічных межах, уключаючы ў тэрыторыю Беларускай Народнай Рэспублікі Віленшчыну разам з Вільняй. *Трэцяя фаза:* беларускаму народу не ўдаецца зарганізаваць сваіх мэтаў і ён быў падзелены. Тады ў беларускім грамадзянстве пашыраецца думка, што калі ўжо трэба жыць у чужых дзяржавах, дык найлепш у тых, якія найменш небясьпечны для беларускага народу. Але тут беларускае грамадзянства падзялілася: адны ўважалі, што найлепш будзе быць пад Саветамі, другія, — што пад Польшчай, а трэція — пад Літвою. Літвафілы заяўлялі, што каліб Польшч дзеля нейкіх палітычных камбінацыяў хацела ўступіць Літве часьць бел. этнаграфічных земляў, дык шкадаваць няма чаго. Але і літвафілы разумелі тады гэтакую канцэпцыю як пераходны этап, пакуль няма беларускай дзяржавы. Каліб, аднак, беларускі народ сваю дзяржаву стварыў, беларускія землі магліб вярнуцца з літоўскага „дэпозыту“ да свайго праўнага собсьніка.

Гэтак прадстаўляліся адносіны беларусаў да літоўцаў. А цяпер прыглядзімся, як выглядаюць *літоўска*-беларускія адносіны?

Трэба прызнаць, што на працягу двух апошніх дзясяткаў гадоў, у літоўскай палітычнай думцы можна было спасьцерагчы *толькі адну фазу*, іменна, імкненьне да анэксіі беларускіх этнаграфічных земляў на карысьць Літвы — і то анэксіі бяз ніякіх варункаў і засьцярог. Мы нічога ня чулі аб ніякай аўтаноміі ці хоцьбы адміністрацыйнай апрычонасьці бел. земляў у будучай „Вялікай Літве“, каліб да яе такім ці іншым парадкам дайшло. Літоўскія палітыкі ўважаюць бел. землі, якія яны хацеліб далучыць да свае дзяржавы за літоўскія, толькі зьбеларушчаныя, якія трэба „вярнуць да бацькаўшчыны“. Была нават распрацавана адумысловая тэорыя аб літоўскасьці бел. каталіцкага насельніцтва, жывучага на ўсход ад этнаграфічнай Літвы. Паводле гэтай тэорыі беларусы-каталікі — гэта не беларусы, а зьбеларушчаныя літоўцы, бо сапраўднымі беларусамі зьяўляюцца толькі праваслаўныя... На гэтай падставе літоўцы залічылі і залічваюць да сваей тэрыторыі ўсе тыя землі, на каторых жывуць беларусы-каталікі.

Перад намі ляжыць выданая ў Літве палітычная карта Вялікай Літвы. (Lietuvos Žemėlapis, sudarė Al. Vaičiulaitis). Гэтая карта лічыцца ў Літве найболей папулярнай і адбівае літоўскія тэрытарыяльныя пажаданьні. Цікава былоб даведацца, якія гэта ёсьць пажаданьні і якія бел. землі літоўцы хацеліб уключыць у сваю дзяржаву?

Граніца Вялікай Літвы пачынаецца ад Дзьвіны каля Друі, прыгэтым Друя астаецца пры Польшчы. Потым граніца ідзе на Браслаўскія вазёры, Браслаў уключаны ў граніцы Літвы, потым на Казяны, Паставы, Мядзэл, раку Нарач да Маладэчна і Валожына, прыгэтым абодва гэтыя гарады астаюцца пры Польшчы, далей ракою Бярозаю да Нёмана (паміж Любчай і Мікалаевам), потым Нёманам да Луны, ад гэтага месца на Індуру, Кузьніцу, Сідру, Дубраву, Штабін, Аўгустоў — прыгэтым усе гэтыя мясцовасьці астаюцца пры Літве, а потым ідзе да нямецкай граніцы, з якой стыкаецца каля Райгораду.

Гэтакія ёсьць граніцы ў палітычных імкненьнях Літвы. Як бачым, на карце вялікія беларускія абшары залічаны да літоўскай тэрыторыі і Літоўскай дзяржавы. На якой падставе гэта робіцца? Ці літоўскія палітыкі пыталіся ў гэтым прыпадку волі насельніцтва гэтых земляў і дзяржаліся прынцыпу самаазначэньня народаў? Ці прынамся выдалі дэкларацыю аб ушанаваньні правоў беларускага насельніцтва ў праектаванай тэрыторыяльнай анэксыі белар. земляў? Мусім сьцьвердзіць, што ўсяго гэтага ня было! Дык якім правам гэта робяць?

На ўсе гэтыя пытаньні мы пакульшто цяпер адказваць ня будзем, а вернемся да гэтай справы ў будучыне.

——

## Гданск. — Маскоўскія перагаворы.

Гданск зьяўляецца цяпер адным з найбольш небясьпечных пунктаў Эўропы. Аб ім гавораць усе эўрапэйскія палітыкі і пішуць усе эўрапэйскія газэты. Яшчэ ў канцы чэрвеня разпаўсюдзіліся чуткі аб хуткім, далучэньні гэтага гораду да Нямеччыны. Заграні́чныя газэты падалі нават, што гэтае далучэньне мелася адбыцца ў першых днях ліпня! Прычынай гэткага дапушчэньня было фармаваньне ў Гданску збройнай нямецкай сілы, давоз з Нямеччыны (Усх. Прусіі) артылерыі і ваенных матэрыялаў, а такжа ваяўнічыя прамовы адведаўшага Гданск нямецкага мін. прапаганды Гэббэльса і гданскага „гаўляйтэра“ Форстэра. Гэббэльс і Форстэр казалі, што Гданск вернецца да Нямеччыны і што хвіліна гэтая надходзе. Кіруючыся гэтымі трывожнымі весткамі, францускі прэмьер Далядье і англійскі мін. замежных спраў Галіфакс выступілі з прамовамі, у якіх рашуча заявілі, што ў прыпадку канфлікту між Нямеччынай і Польшчай за Гданск, Англія і Францыя выступяць на помач Польшчы. Не абмяжоўваючыся да гэтага, франц. мін. зам. спраў Боннэ запрасіў да сябе нямецкага амбасадара ў Парыжы Вэльчка і быццам асабіста пацьвярдзіў яму гэтую пастанову Англіі і Францыі. Мінулі першыя дні ліпня і ў Гданску ніякага „пучу“ ня было. Нямецкая ўрадавая агэнцыя DNB запярэчыла нават, што ў Гданску нешта прыгатаўлялася, а 3—4.VII. польскія газэты падалі вестку, што нямецкі ўрад, згодна з абавязваючым гданскім статутам, паведаміў урад польскі аб маючай наступіць у днях 25—26.VIII. с. г. візыце нямецкага дрэ-

дноўта „Königsberg" у Гданску. Гэтыя весткі эўрапэйская і польская прэса прынялі як азнаку хвілёвага „адпружаньня" на гданскім адрэзку. Але ўжо 4.VII. ў газэтах зьявіліся весткі, што нотыфікацыя візыты „Königsberga" і запярэчаньні DNB зьяўляюцца наболыш як зручным манэўрам з боку Нямеччыны, што ніякога фактычна „адпружаньня" няма, што ў Гданск далей наплывае ваенны матарыял і ўмацоўваюцца яго граніцы з Польшчай. Гэтак прадстаўляліся гданскія справы за мінулыя два тыдні.

Каб разабрацца ў гданскіх падзеях трэба ведаць мэты і тактыку ў справе Гданска двух безпасрэдна заінтарасаваных дзяржаў — Нямеччыны і Польшчы. Мэтай Нямеччыны ёсьць далучэньне Гданска да Райху. Ад яе Нямеччына ня можа адступіць хоцьбы дзеля таго, што сам Гітлер моцна заангажаваўся ў гэтай справе, якая, у дадатку, набрала вялікага разгалосу ў сьвеце. Але, імкнучыся да гэтае мэты, Нямеччына спрабуе зьдзейсьніць яе перш за ўсё мірным спосабам. Дзеля гэтага Нямеччына старацца ізаляваць Польшч ад Англіі і Францыі, падчыркваючы заходнім дзяржавам, што толькі Гданск ёсьць небясьпечным вогнішчам вайны, што дзеля Гданска вайны ня варта ўшчынаць, што Польшч згадзілася-б на ўступкі ў гэтай справе, каб яе не падбухторвала да спрацiву Англія сваімі гваранцыямі (аб Францыі Немцы амаль маўчаць). Ізноў-жа Польшч Немцы стараюцца праканаць, быццам ангельскія гваранцыі нічога ня варты, што Англія ня будзе ваяваць за Гданск і таму найлепш было-б скончыць увесь канфлікт мірным парадкам. Гэтак думае і паступае пакуль што Нямеччына. Кажуць, што натыфікацыя візыты „Königsberga" аж на канец жніўня ёсьць апошняй перадышкай, дадзенай Немцамі сваім праціўнікам, у часе якой нямецкая дыплямацыя і прапаганда спрабуюць яшчэ раз стараньні, каб ізаляваць Польшч і дабіцца сваіх мэтаў мірным парадкам. Калі-б гэта не ўдалося, тады асталася-б толькі вайна. Лічучыся і з гэтай апошняй магчымасьцю Немцы кіруюць гданскімі падзеямі так, каб справакаваць Польшч і прадставіць яе ў ролі агрэсара перад заходнімі саюзьнікамі. У гэтым прыпадку Англія і Францыя ня былі-б забавязаны ісьці Польшчы на помач. Справакаваць-жа Польшчу да аружнага выступленьня супроць Гданска выдаецца рэччу лёгкай: Гданскі сэнат абвесьціць паварот Вольнага Места да Нямеччыны і тады Польшч напэўна пачнець вайну.

Мэтай Польшчы ёсьць утрыманьне дасюлешняга стану рэчаў у Гданску. Польшч згаджаецца гаварыць у гэтай справе з Нямеччынай, аднак згары выключае ня толькі паварот Гданска да Нямеччыны, але і магчымасьць якіхсь вялікшых уступак Нямеччыне ў гэтым горадзе, бо гэтыя ўступкі маглі-б у консэквэнцыі адапхнуць Польшч ад мора да чаго яна дапусьціць ня можа.

Тактыка Польшчы палягае на тым, каб бараніць Гданска ўсімі магчымымі спосабамі, уключа да вайны, аднак ня даца справакаваць. У вадказ на нямецкія спробы правакацыі Польшчы, польская прэса піша, што нават у прыпадку, калі гданскі сэнат абвесьціць далучэньне Места да Райху, а Польшч зарэагуе вайной, гэта ня будзе агрэсія з яе боку. З думкай гэтай, здаецца, згаджаюцца Англія і Францыя.

Як бачым, гданскі вузёл завязваецца ўсё мацней. У гэтай справе нічога прадбачыць ня можна. Але, здаецца да візыты „Königsberga" (25—28.VIII.) „перадышка" запраўды будзе мець месца.

* * *

З ангелійска-савецкіх гутарак аб саюзе нічога ня выходзе, хоць Чэмбэрлен і Галіфакс, Боннэ і Даладіе ў сваіх афіцыяльных выступленьнях ніколі не забываюцца ўспомніць аб гэтых перагаворах і выказаць надзею на хуткае і памыснае заключэньне саюзу з Саветамі. Спэцыяльны ангельскі дэлегат „спэц" Стрэнг выбіраўся ў Маскву ўсяго на некалькі дзён, спадзяючыся ў працягу іх зрабіць „гэшэфт", а тымчасам на гэта не хапіла і шасьці тыдняў. Публічная думка Англіі і Францыі ўсё больш лічыцца з фактам, што маскоўскія гутаркі нічога не дадуць і разважае над тым, што рабіць у гэтым прыпадку. Трэба сказаць, што саюз з Масквой у антынямецкіх плянах Англіі меў згуляць вялікую ролю. Англія, даючы гваранцыі Польшчы і Румыніі, ведала, што рэальнае значэньне гэтыя гваранцыі будуць мець толькі ў прыпадку здабыцьця для антынямецкага блёку Саветаў. Нэўтральнасьць Саветаў, або і ва рожае становішча іх да плянаў Англіі, прымусіла-б яе шукаць іншых спосабаў зьдзейсьненьня дадзеных гваранцыяў. Таму і для Польшчы тое ці іншае становішча Саветаў мае вялікае значэньне, хоць Польшч уздзелу ў маскоўскіх гутарках ня прыймае. Польская прэса, лічучыся з магчымасьцю правалу ангельска-савецкага саюзу, такжа спынеяцца над тым, што тады зробяць Англія і Францыя, каб іхнія гваранцыі маглі быць зьдзейсьнены.

Палк. Гжендзінскі ў „Czarno na białem" (19.VII) выказаў думку, паўтораную амаль усей польскай прэсай, што ў гэтым прыпадку Англія і Францыя павінны заразжа ўстанавіць тыя сілы і тыя сродкі, якімі яны думаюць успамагчы безпасрэдна польскі фронт, бо самога націску на Немцаў на захадзе было-б мала. Палк. Гжендзінскі кажа, што Англія і Францыя павінны перш за ўсё зрабіць з Польшчы магутную саюзную лятунскую базу, значэньне каторай раўнялася-б утрачанай чэха-славацкай базе, а на моры Балтыцкім павінны зьявіцца англійска-французкія ваенныя караблі і супрацоўнічаць з польскімі. Іншымі славамі, палк. Г. дамагаецца, каб заходнія саюзьнікі далі помач тут, на месцы, а не абмяжоўваліся-б толькі да ўспамаганьня Польшчы ваеннымі апэрацыямі на сваім заходнім фронце.

Калі ў Польшчы магчымая няўдача маскоўскіх гутарак ня выклікае вялікшага рэха, бо Польшч заўсёды адносілася да Саветаў асьцярожна і не пераацэньвала іхніх сілаў, дык рэакцыя француского і англійскага грамадзянства ёсьць іншая. Там гэта няўдача перажываецца ўжо цяпер далёка вастрэй, дзякуючы таму, што яшчэ да пачатку гутарак з Саветамі заходняя прэса шырака разтрубіла аб мілітарнай магутнасьці Саветаў, а нават гэткія палітыкі як Лёйд-Жорж з парляментарнай трыбуны заяўлялі, што без саюзу з Саветамі ангажавацца ў вайну з Нямеччынай было-б найвялікшай недарэчнасьцю...

Маскоўскія гутаркі хіба што нейкі час яшчэ патрываюць, бо, здаецца, абедзьвюм старанам гэта пакуль што выгадна...

**Д.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**„Tyfus szaleje na Polesiu".** Пад гэткім загалоўкам „Słowo" (6. VII) зьмясьціла невялікі артыкул. З гэтага артыкулу відаць, што на Палесьсі гэтая хвароба трывае безупынна аж ад вайны! Змаганьня з тыфам няма ніякага. Вёскі палеськія ня маюць лазьняў, вошы поўна, акцыі дэзынфэкцыйнай ніякай... Аўтар артыкулу паклікаецца на факт, што калі ў мінулым годзе зьявілася ў Галічыне невялікая эпідэмія тыфу, дык газэты пачалі пісаць сажнёвыя артыкулы, выслана на месца зарганізаваную лекарскую помач, прыехала нават нейкая камісія, здаецца міністэрыяльная. Нічога падобнага няма на Палесьсі. Аўтар слушна пытаецца, чаму гэткае няроўнае адношаньне да Палесься і Галічыны (Małopol-

# Аб „тутэйшых".

Тэрмін гэты добра ведамы беларускаму грамадзянству. І ня толькі беларускаму. Нашыя суседзі, палякі і расейцы, такжа часта яго ўжываюць. Слова „тутэйшыя" мае азначаць тых жыхароў - беларусаў нашага краю, якія не патрапяць адказаць, да якой нацыянальнасьці сябе залічаюць. Калі гэтакіх жыхароў пытаюцца, хто яны — палякі, расейцы, літоўцы — даецца адказ: „мы не палякі, не расейцы і не літоўцы, мы „тутэйшыя". Той, хто пачуе гэткі адказ прыймаецца грэблівасьцю або літасьцю да людзей, якія гэтак дзіўна азначаюць сваю нацыянальнасьць. Таму тэрмін гэты прыймаецца як доказ адсутнасьці нацыянальнага пачуцьця ў „тутэйшых" і вельмі нізкай ступені іхняга культурнага разьвіцьця. „Тутэйшых" гатовы зраўняць нават з якімісь дзікімі плямёнамі, каб гэтаму не перашкаджала адносна высокая ступень іхняе матэр'яльнае культуры, з гледзішча якой „тутэйшыя" ня розьняцца ад тых, што ўмеюць назваць сваю нацыянальнасьць. Лічучы „тутэйшых" у сэнсі нацыянальным безкалёрнай масай, бальшыня тых, што з імі стыкаліся, выказвае думку, што толькі шляхам пашыраньня асьветы з „тутэйшых" можна будзе зрабіць сьведамую нацыянальна масу. І наадварот, кажуць, быццам, чалавек, атрымаўшы нейкую асьвету, не ўспамінаючы ўжо аб сярэдняй і вышэйшай, ніколі ня будзе называць сябе нацыянальна „тутэйшы". Нейкая асаблівая грэблівасьць лучыцца з гэтым словам, грэблівасьць, якой ня чуецца, прыкладам, адносна тых аўтахтонаў нашага краю, каторыя сваю нацыянальнасьць азначаюць, скажам, паводле веры.

Бязумоўна, асьвета можа вельмі прычыніцца да нацыянальнага асьведамленьня „тутэйшых". Але ня кожная асьвета... Расейцы і палякі пашыралі і шыраць, прыкладам, між „тутэйшымі" сваю асьвету і падсоўваюць ім свае нацыянальныя пашпарты, аднак, „тутэйшыя" астаюцца „тутэйшымі". Можа толькі адзінкі з іх „самаазначыліся" нацыянальна і зрабіліся палякамі або расейцамі. Але маса асталася таясамая, чужая для расейцаў і палякоў. Каб выясьніць нашую думку, што ня кажная асьвета можа нацыянальна асьведаміць „тутэйшых", трэба спыніцца над сутнасьцю самога паняцьця „тутэйшасьці", бо яно зусім ня ёсьць такое простае, як гэта на першы пагляд магло-б здавацца.

Наўперад трэба сказаць, што „тутэйшыя" спатыкаюцца ня толькі сярод сялянскай або мяшчанскай масы, але і сярод інтэлігенцыі, і, як ня дзіўна, часта з вышэйшай адукацыяй! Афіцыяльна дэкляруецца сваей нацыянальнасьці, скажам, як польскай, часта яшчэ нічога не даказвае! Я нядаўна спаткаў старога ўнівэрсытэцкага калегу, з якім размаўляў на тэму нацыянальнасьці нашага краю. З гутаркі між іншым выясьнілася, што гэтая асоба, асыстэнт унівэрсытэту, з дактаратам, маючая 45 гадоў жыцьця і зьлягка пасівеўшыя валасы, увесь час блыталася ў вызначэньні свае нацыянальнасьці. На пытаньне, чым гэта тлумачыцца, сасыстэнт і доктар выясьніў так: — „Я аўтаматычна дэкляраваўся паляком, дзе было трэба, а ў душы лічыў сябе заўсёды „тутэйшым". Пазьней я задумаўся над тым, які нацыянальны зьмест трэба ўлажыць у паняцьце „тутэйшы" і прышоў да вываду, што найбліжэйшым да яго ёсьць не паляк або расеец, а толькі беларус. Таму ў вапошніх часох я назваў сябе беларусам, з чаго меў вялікія прыкрасьці". Думаю, шмат хто з беларусаў спаткаўся з гэткімі праявамі „тутэйшасьці" сярод лічучых сябе палякамі або расейцамі. Моцныя сьляды гэтай „тутэйшасьці" можна было заўважыць у „Przeglądzie Wileńskim" ды і ўва ўсіх „краёўцаў". А ці-ж уся творчасьць А. Міцкевіча ня сьведчыць аб „тутэйшасьці" яго душы? Наагул, як правіла, можна сказаць, што шмат у каго з тутэйшых аўтахтонаў, ня гледзячы на атрыманую асьвету і пададзеную чужую нацыянальнасьць, дзесьці на дне душы блытаецца „камплекс тутэйшасьці", які пры аказіі дае аб сабе знаць.

Дык калі сярод інтэлігенцыі можна спаткаць „тутэйшых" няма дзіва, калі яны ў значна большай колькасьці спатыкаюцца ў вёсцы, або горадзе. А ўжо сам факт існаваньня „тутэйшае" інтэлігенцыі паказвае, што да гэтага зьявішча ня можна падходзіць лёгкадумна.

Наступна, калі сялянская або гарадзкая маса падчырквае сваю „тутэйшасьць", ня можна казаць, што з гледзішча нацыянальнае сьведамасьці яна зьяўляецца зусім безкалёрнай. „Тутэйшая" маса цалком сьведама адгараджвае сябе ад нацыянальнасьці расейскай, польскай, або якойсь іншай. Ужо гэты нэгатыўны бок у вызначэньні сваей нацыянальнасьці мае вялікае значэньне. Але слова „тутэйшы" мае і пазытыўны зьмест. Яно нетасуецца масай да кажнага, хто прыплёўся ў край і тут жыве. Яно азначае толькі такога жыхара, які зьяўляецца ў поўным сэнсі слова аўтахтонам краю, які зросься з краем і зьяўляецца яго гаспадаром. Ці можна казаць, што, даўнейшыя назовы беларускіх плямёнаў, як крывічы, дрыгавічы, радзімічы і г. д. маюць глыбейшы сэнс ад слова „тутэйшы"? Або, скажам, назовы польскіх, ці ўкраінскіх плямёнаў? Назоў „тутэйшы" ў паляў або расейцаў выклікае да сябе таму грэблівае адношаньне, што „тутэйшыя" ня хочуць прызнавацца да польскасьці або расейскасьці. Дзеля гэтых прычын „тутэйшыя", з гледзішча нацыянальнае сьведамасьці, стаяць бязспрэчна вышэй ад тых беларусаў, каторыя сваю нацыянальнасьць азначаюць паводле веры. Гістарычна гэты тэрмін такжа зьяўляецца зразумелым. Ведама, што беларусы да канца XVII ст. жылі сваім гаспадарстзенным жыцьцём і нацыянальна былі цалкам сьведамымі, падчыркваючы сваю розьніцу з палякамі і расейцамі. Калі-ж беларусы згубілі сваё гаспадарства і амаль дзьве сотні гадоў знаходзіліся ў духовай і фізычнай няволі (утрата свае інтэлігенцыі і прыгон), яны забыліся аб сваей нацыянальнасьці, аднак шматвяковае самастойнае жыцьцё, відавочна, пакінула свае сьляды ў форме пачуцьця свае нацыянальнай апрычонасьці ад суседзяў. Маса ня ведала свайго нацыянальнага назову, свае мінуўшчыны, але дасканальна ведала, што яна не зьяўляецца ані польскай, ані расейскай, ці якойсь іншай. Таму і паўстаў назоў „тутэйшы", на азначэньне адвечных гаспадароў тутэйшай зямлі. А калі разросься беларускі нацыянальны рух і масы „тутэйшых" знайшлі ў ім адбіцьцё сваей нацыянальнае індывідуальнасьці, тлумачэньне свае мінуўшчыны, сваіх патрэб, яны шырокім рэчышчам уліліся ў гэты рух і зьмянілі свой назоў „тутэйшы" на „беларус", „беларускі".

З гэтых разважаньняў бачым, што „тутэйшасьць" зусім не зьяўляецца аж натолькі ўжо паняцьцем прымітыўным, як думаюць некаторыя. Спатыкаюцца „тутэйшыя" і сярод інтэлігенцыі, а самы гэты назоў з гледзішча азначэньня нацыянальнасьці, зусім ня ёсьць такім ужо безьзмястоўным. Ён добра аддае нацыянальную апрычонасьць

ski), чаму тыф у Галіччыне выклікаў гэткае зацікаўленьне, а аб тыфе на Палесьсі трываючым ад вайны, ніхто, здаецца, ня ведае? Аўтар радзіць, каб адпаведныя дзейнікі заінтарасаваліся гэтай справай і знайшлі сродкі на змаганьне з хваробай, як знаходзяцца грошы на „domy ludowe“, будаваныя па вёсках, а часта неспаўняючыя ўскладанай на іх надзеі. Лепш з гэтых дамоў зрабіць лазьні, — думае аўтар,

Увагі правільныя. Запраўды, пагадзіцца з тым, каб у Сярэдняй Эўропе былі мясьціны і не малыя, у якіх ад канца вайны пануе нявыводна тыф — немагчыма. Ад сябе дададзём, што нешта аб „domach ludowych“, будаваных у Палескіх вёсках і ўскладаных на гэтыя „domy“ надзеях, мы чулі і з гэтай прычыны цалком згаджаемся з аўтарам, каб з палескіх „людовых“ дамоў зрабілі лазьні.

**„Wojewoda Bociański.“** Выходзячы ў Вільні эндэцкі двутыднёвік „Sprawy Otwarte“ зьмясьціў у № 8 (1—15.VI) пад гэтакім загалоўкам пахвалу б. віленскаму ваяводзе Бацянскаму за яго палітыку адносна беларусаў і літоўцаў. Артыкул поўны захапленьня. „Энэргічны“, „здэцыдаваны“, „dobrze służył polskości“ „zrobił dla niej więcej w ciągu 3 let. okresu, niż wszyscy inni włodarze tej ziemi w ciągu lat kilkunastu“ „niszczył hodowany w podwalinach domu grzyb“, якім ёсьць „separatyzm białoruski“. Мы сумысьля падалі гэтыя пахвалы па-польску, каб лепш аддаць іхні сэнс. Натуральна „Spr. Otw.“ лічаць край, у якім працаваў ваяв. Бацянскі, „odwiecznie polską ziemią“, а ў канцы пахвалы заяўляюць „nie jesteśmy i nie byliśmy panegirystami“.

Гэтак піша эндэцкі орган.

Беларусы добра ведаюць в. Бацянскага, ведаюць, што ён змагаўся з беларушчынай рашуча і „zdecydowanie“ як пішуць „Spr. Otw.“. Змагаўся за польскасьць „odwiecznie polskiej Wileńszczyzny“. Мы толькі аднаго не разумеем, чаму в. Бацянскі атрымаў у падарунку, калі пакідаў Вільню, **„Літоўскі Статут“** хоцьбы і ў перакладзе з беларускай мовы на польскую. Што гэта азначае і ці няма ў гэтым нейкаў сымболікі? Можа S. O. гэта-б выясьнілі, а пры аказіі прачыталі ў Статуце пастановы аб чужынцах.

**Добры ўступ а дрэны канец.** „Słowo“ (6.VII) зьмясьціла цікавыя спасьцярогі В. Харкевіча пад загалоўкам: „Kraina lasów rzek i jezior“. Аўтар мэлянхалійна разважае аб асаблівай прыродзе Беларусі і мінуўшчыне яе жыхароў. Гэтая мінуўшчына была надта драматычная. Беларускі народ, які ёсьць знаны ў гісторыі пад назовамі Крывічоў-Русінаў-Ліцьвіноў, шмат змагаўся з суседзямі, каторыя імкнуліся да яго зьнішчэньня. Розная доля была гэтых змаганьняў. Але, ў рэзультаце, **„Крывічы - Русіны - Ліцьвіны - Беларусы“** вытрывалі на сваім становішчы і абаранілі сябе ад пагражаўшай ім згубы. У краі поўна крывіцкіх памятак. Між іншым „Крывы горад“ у Вільні, дзе цяпер вядуцца раскопкі, гэта памятка па Крывічах. Назоў „Крывы“ — кажа Харкевіч, паклікаючыся на ведамага дасьледчыка нашага краю палк. Адварда Пэрквоіча, не паходзе ад „крывізны“ замку. Назоў гэты сьведчыць аб тым, што горад **быў збудаваны** Крывічамі. Думка правільная, бо толькі ад слова **крывіч** паходзяць назовы „Крывая гара“, „Крывы замак“. Адгадваючы псыхіку цяперашняга беларуса Харкевіч кажа: „Чаго ёсьць больш ў гэтым народзе: жаданьня супакою ці гатоўнасьці да барацьбы — хто зможа сказаць? Любячы працу земляроб і адважны рыбак аднолькава хутка могуць зрабіцца сьмелымі жаўнерамі, задзіўляючымі сваей вытрываласьцяй і адвагай.

Харкевіч напісаў гэтыя ўвагі з Браслаўшчыны. Яны правільныя. Аднак у наступных нумарох тагож „Słowa“ зьмешчаны далейшыя ўражаньні Харкевіча аб „Крывічах - Русінах - Ліцьвінох - Беларусах“, у якіх ён ужо стараецца даказаць іхнюю польскасьць на аснове асабістых нагляданьняў... На дзіўныя аргумэнты паклікаецца Харкевіч! Паводле яго, калі беларусы плацяць падаткі, служаць у польскім войску, дзе рэпрэзэнтуюцца як добрыя і інтэгентныя жаўнеры, дык гэта мае быць даказам іхняе польскасьці. Напасьледак, гэткім-жа даказам мае быць браслаўская абарона 1919 г. супроць бальшавікоў, аб якой Х. вельмі шмат пісаў і піша, прадстаўляючы гэтую акцыю як чыста польскую. Ніякіх нацыянальных ці сацыяльных патрэб гэты народ ня мае і Х. аб гэтым нічога ня піша. Ды і аб якіх нацыянальных патрэбах можа быць гутарка, калі народ польскі!

Служба ў войску, аплачваньне падаткаў сьведчыць аб тым, што браслаўскія беларусы выконваюць свае абавязкі адносна дзяржавы. Гэта ня доказы іхняе польскасьці. Каліб Х. хацеў запраўды пазнаёміцца з патрэбамі і жаданьнямі браслаўскіх беларусаў, дык ён павінен перш навучыцца, як да іх падыйсьці, каб здабыць давер, а потым акунуцца ў іхнюю гушчу. Тадыб ён праканаўся, што гэтае насельніцтва хоча сваіх бел. школаў, сваіх арганізацыяў, бел. мовы ў касьцёлах і царквах, зямельнай рэформы і шмат чаго іншага. Урэшце, барацьбу з бальшавікамі ў 1919 г. Х. ацэньвае зусім няправільна. Мы такжа аб ёй ведаем. Гэта была барацьба г. зв. „зялёных“ якіх з прыходам бальшавікоў у Беларусь было поўна ўсюды. Ніякая нац. ідэя, нават беларуская іх не лучыла. Лучыла іх негатыўнае адношаньне да бальшавікоў, якія сваей палітыкай выклікалі ўвесь рух „зялёных“. Тое што кс. Буклярэвіч ім спагадаў і што ў васяродзьдзі „зялёных“ былі польскія адзінкі, зусім не пацьвярджае польскасьці ўсяго выступленьня. А ўжо ніяк немагчыма лічыць гэткім доказам жаданьня прабіцца да польскага войска. „Зялёныя“ гатовы былі прабіцца да кажнай антыбальшавіцкай сілы, каб ратавацца ад вернай згубы.

—•—

# На беларускім ґрунце

### БЕЛ. КААПЭРАТЫЎНЫ БАНК.

10. VII. адбылося паседжаньне Галоўнай Управы Бел. Каап. Банку ў Вільні, на якім старшынёй Управы выбрана грам. М. Шкялёнка, заступнікам старшыні грам. Ф. Стэцкевіча, вядзеньне рахунковасьці, канцэлярыі і касы даручана гр. І. Біндзюку.

### ТАВАРЫСТВА ПРЫЯЦЕЛЯЎ БЕЛАРУСАВЕДЫ.

У мінулым годзе Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ ў Вільні наладзіла курсы для бел. студэнтаў з беларускай гісторыі, гэографіі, экаеомікі, языкаведы, літаратуры. Лекцыі адбываліся сыстэматычна ўвесь год і скончыліся з канцом акад. году. Праароблена вялікая работа, хоць, нажаль, ня ўсе прадметы былі прачытаны поўнасьцю (прыкл. гэографія Беларусі). Пажадана, каб Т-ва загадзьдзя абдумала магчымасьці наладжаньня гэтакіх курсаў і ў надыходзячым годзе і каб яны магліб пачацца не ў II а ў I трымэстры.

### СЯРГЕЙ ХМАРА.

У гэтых днях выйшаў з друку невялічкі зборнік вершаў Сяргея Хмары пад назовам **„Жураўліным шляхам“,** бач. 32. Сяргей Хмара выдатна выдзяляецца з нашага літаратурнага маладняка, хоць на

„тутэйшых“ з боку, нэгатыйнага („не паляк не расеец ніхто іншы“) ды мае даволі глыбокі пазытыўны сэнс (адвечны жыхар гэтага краю, яго гаспадар).

Па гэтых увагах вернемся цяпер да пытаньня, шляхам пашырэньня якой асьветы „тутэйшыя“ могуць быць нацыянальна асьвядомлены? Адразу для нас робіцца ясным, што ані асьвета польская, ані расейская ня могуць быць асьведамляючым нацыянальна дзейнікам, бо само паняцьце „тутэйшасьці“ паўстала як проціўстаўленьне да польшчыны або расейшчыны! „Тутэйшасьць“ зусім ня ёсьць tabula rasa, на якой першы лепшы можа без перашкод напісаць сваю нацыянальнасьць. Гэта паняцьце азначыла дакладна тое рэчышча, якім мае цячы нацыянальнае асьведамленьне, а нават азначыла яго сутнасьць. „Тутэйшыя“ могуць зрачыся свайго назову толькі на карысьць тае нацыянальнасьці, у якой знойдуць сябе. Гэткай нацыянальнасьцю для іх ёсьць нацыянальнасьць беларуская. Усе сьвядомыя беларусы гэта тыя-ж „тутэйшыя“, толькі асьвечаныя, г. зн. ведаючыя мінуўшчыну і сучаснасьць, патрэбы і мэты „тутэйшых“. Калі ўсе „тутэйшыя“ асьвядомяцца ў гэтым сэнсі, яны аўтаматычна будуць лічыць сябе беларусамі. І наадварот, пакуль „тутэйшыя“ ня будуць ведаць хто такія беларусы, яны будуць проціўставіцца нават ім! І гэткае іхняе становішча будзе зусім правільным. Бо калі-б „тутэйшыя“, ня ведаючы хто такія беларусы, беларушчыліся, тады яны маглі-б лёгка палянізавацца або русыфікавацца, а гэткае зьявішча было-б надта небясьпечным для беларускага руху. Значыцца, толькі асьвета беларуская можа нясьці „тутэйшым“ нацыянальнае асьведамленьне. Польшчына або расейшчына ня могуць іх асьведаміць, г. ё. адкрыць ім хто яны. Чужая асьвета можа толькі спалянізаваць або зрусыфікаваць адзінкі, так як можа спалянізаваць ці зрусыфікаваць беларуса, літоўца, немца і інш. Правільнасьць гэтай спасьцярогі пацьвярджае і рэчаістасьць. У той час, калі з разьвіцьцём беларускага нацыянальнага руху мільёны тутэйшых назвалі сябе беларусамі, толькі адзінкі іх спалянізаваліся або зрусыфікаваліся.

Дык ня кажная асьвета можа прычыніцца да нацыянальнага асьведамленьня „тутэйшых“, а толькі асьвета беларуская. І таму мыляюцца тыя чужыя „культуртрэгэры“, якія, лічучы „тутэйшых“ у сэнсі нацыянальным нулём, намагаюцца шырыць між імі сваю культуру, ды яшчэ выводзяць з „нацыянальнай прымітыўнасьці“ тутэйшых свой „маральны“ абавязак да пашыраньня гэтай чужой культуры! Гэткая „асьветная“ акцыя чужых культуртрэгэраў ёсьць супярэчнай з сутнасьцю самога паняцьця „тутэйшасьці“, і зьяўляецца толькі грубым ламаньнем ды нішчэньнем душы „тутэйшага“.

Напасьледак скажам некалькі слоў аб тым, як павінна беларускае грамадзянства аднасіцца да „тутэйшых“. За прыкладам чужынцаў часта і сярод беларусаў можна заўважыць грэблівы і лёгкадумны пагляд на гэта пытаньне. Падобнае становішча ёсьць недапушчальным з боку беларускага. Трэба ведаць, што „тутэйшасьць“ згуляла нязвычайна вялікую ролю ў жыцьці беларускага народу, бо яна абараніла беларускую нацыянальнасьць ад зьнішчэньня ў найгразьнейшым пэрыёдзе яе існаваньня. Дзякуючы „тутэйшасьці“ беларускі народ пратрываў гэты час у сваей гісторыі і дачакаўся адраджэньня, пры якім зьнішчэньне беларускай нацыі ёсьць ўжо немагчымым. Вялікая шкода, што мы так мала ведаем аб „тутэйшасьці“ і не маем ніякіх прац на гэту тэму, а ўжо вялікім грэхам з боку беларускага было-б успомненае лёгкадумнае адношаньне да гэтага дзейніка, так дасканальна консэрвуваўшага беларускую нацыю. За „тутэйшых“ беларусы абсалютна ня маюць чаго стыдацца і павінны сьмела аб іх гаварыць, а нават гардзіцца, бо праяў гэты ёсьць доказам жывучасьці беларускага народу і яго прыроджанага розуму. Дык гістарычна рэч бяручы ацэна „тутэйшасьці“ беларусамі павінна быць толькі пазытыўная.

А як трэба аднесьціся да „тутэйшых“ у сучаснасьці, калі побач з імі разьвіваецца сьведамы беларускі рух? Ці магчыма таляраваць гэты праяў тады, калі ўжо беларускі рух можа пахваліцца вялікімі здабыткамі, калі „тутэйшасьць“ якбы замінае разьвіцьцё беларускага руху? У прынцыпе на гэта пытаньне трэба адказаць, што беларусы павінны імкнуцца да „ліквідацыі“ тутэйшасьці. Аднак, у залежнасьці ад абставінаў, тактыка тут павінна быць розная. Там, дзе сярод „тутэйшых“ ёсьць досыць беларускіх сілаў і магчымасьцяў, там трэба весьці беларускую асьведамляючую акцыю „поўнай парай“. У тых-жа „тутэйшых“ асяродках, дзе беларусы, з прычын ад волі іхняй незалежных, ня могуць весьці асьведамляючай акцыі, дзе не даходзіць ніякае беларускае друкаванае слова, там тактыка беларуская павінна быць іншай. Там неабходна падтрымоўваць „тутэйшасьць“, проціўставіць яе чужым нацыянальным уплывам. У гэткіх асяродках „тутэйшасьць“ і ў сучаснасьці павінна згуляць тую-ж ролю консэрватара беларускай нацыі, якую згуляла ў гісторыі. „Тутэйшасьць“ трэба падтрымоўваць там датуль, пакуль ня зьявяцца магчымасьці беларускай працы ў гэткіх асяродках.

Урэшце там, дзе ані беларускай асьведамляючай акцыі, ані „тутэйшых“ няма, а людзі, гаворачыя пабеларуску, або сапсутай беларускай мовай, азначаюць сваю нацыянальнасьць паводле веры, там трэба імкнуцца да стварэньня „тутэйшага“ руху. Найбольш гэткіх асяродкаў ёсьць у нашых гарадох. Паўстаньне „тутэйшага“ руху ў гэткіх мясцох дасьць мацнейшыя фундамэнты да беларускай асьведамляючай працы, чымся безпасрэдная беларуская акцыя.

З усяго гэтага вынікае, што наагул беларускі рух павінен уключыць у свае рамы і рух „тутэйшы“, ды заапякавацца апошнім. Гэта магутны саюзьнік, якога ніяк лёгкаважыць ня можна. Таму неабходна, каб нашае грамадзянства больш зацікавілася гэтай справай, каб у нас зьявіліся навуковыя працы аб „тутэйшых“. Квэстыя ўзаемаадносінаў між беларусамі і „тутэйшымі“, інакш квэстыя тактычнага падыходу беларусаў да „тутэйшых“, патрабуе такжа абдуманьня; бо неразважная тактыка можа больш пашкодзіць, як прынесьці карысьці. Дзякуючы гэтай неразважнай тактыцы, маем часта гэткія прыкрыя выпадкі, што ўваднэй вёсцы ёсьць беларусы і „тутэйшыя“ і ніяк дагаварыцца ня могуць. „Тутэйшыя“ лічаць беларусаў партыяй, як прыкладам П.П.С., камуністаў і г. д. А ўсё дзякуючы няўмеламу падыходу мясцовых беларусаў. У гэтую беларускую „партыю“ „тутэйшыя“ ня хочуць уступаць! Калі на „тутэйшасьць“ бел. грамадзянства зьверне большую ўвагу, тады выясьняцца і найлепшыя шляхі, каторыя прывядуць да поўнага ўліцьця „тутэйшага“ руху ў беларускі.

**М. Ш.**

**Грамадзяне! Прыпамінаем і просім прысласць складку за газэту! Некаторыя яшчэ дагэтуль ня споўнілі свайго грамадзкага абавязку!**

# На міжнародным грунце

## НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ.

На Далёкім Усходзе маем тры канфлікты: **японска-кітайскі, японска-англійскі і японска-савета-мангольскі.** Найважнейшым ёсьць першы, які трывае ўжо два гады. З нагоды гэтага „юбілею“, які мінуў у гэтых днях, сусьветная прэса многа піша на тэму, хто пераможа — Японія ці Кітай. Галасы падзяліліся. Адны кажуць, што пераможа Кітай, бо Японія ня дасьць рады эканамічным труднасьцям, якія ўжо мае. Гэтыя труднасьці могуць выклікаць у Японіі эканамічную катастрофу, а за ёй і ваенную. Іншыя, а галоўна самі японцы, кажуць, што Японія не баіцца эканамічнай катастрофы, што яна мае куды больш сродкаў на вядзеньне вайны, чымся думаюць яе непрыяцелі, што на армію ў Кітаі Японія выдае мала, бо гэтую армію ўтрымліваюць здабытыя кітайскія абшары... Таму перамога астанецца за японцамі.

Памінаючы гэтыя разважаньні, трэба сьцьвердзіць факт, — які зразумела Японія, што бяз ізаляваньня Чанг-Кай-Шэка ад англійскай і савецкай помачы на перамогу прыйшлосяб чакаць надта доўга. І Японія пачала праводзіць гэтую ізаляцыю шляхам блёкады англійскіх канцэсіяў у Кітаі і наагул усяго ўсходняга пабярэжжа Кітаю. Японія ўжо фактычна адрэзала Кітай (Чанг-Кай-Шэка) ад англійскай помачы морам. Астаецца толькі адна сухаземная дарога праз Бірму, па якой можа ісьці англійская дапамога Чанг-Кай-Шэку, але гэта дарога дрэнная. Дзякуючы гэткім паступкам Японіі, паўстаў **японска-англійскі** канфлікт. Аб пачатках яго мы пісалі ўжо ў папярэднім нумары „Б. Ф.“. Тут зацемім, што за апошнія два тыдні гэты канфлікт нікольні не змалеў. Блёкада ўсіх англійскіх канцэсіяў у Кітаі праводзілася востра і консэквэнтна. Можа толькі было менш выпадкаў разьдзяваньня англійцаў і біцьця іх пашпартамі па твары на вачох кітайскіх кулісаў. І хоць гэты канфлікт можа мець вельмі прыкрыя насьледкі для Англіі на Далёкім Усходзе, Англія неяк дзіўна на яго рэагуе. Спачатку зьявіліся чуткі, быццам Англія, ня маючы сілы да ваеннага змаганьня з Японіяй, ударыць па ёй разам з Амэрыкай (Зл. Штаты) і Францыяй **эканамічна,** абвяшчаючы байкот гандлю з Японіяй. Аднак Амэрыка і Францыя, відаць, не падтрымалі Англіі, а сама яна на гэты сродак не адважылася. Тады Англія пастанавіла дагаварыцца з Японіяй. Ужо некалькі разоў падавалася дата англійска-японскай конфэрэнцыі ў Токіё, аднак і дагэтуль конфэрэнцыя не сабралася. Што найгорш, японская прэса піша, што японскі ўрад зусім ня зьбіраецца займацца гутаркамі аб ліквідацыі інцыдэнтаў з англійцамі, як хоча Англія, а паставіць Англіі ясныя варункі.

Гэтыя варункі японцы падалі да публічнага ведама. Перш за ўсё японцы жадаюць ад Англіі **спыненьня** помачы Чанг-Кай-Шэку, а наступна **супрацоўніцтва** з японцамі ў Кітаі. За гэтымі жаданьнямі хаваецца **ліквідацыя** англійскіх канцэсіяў у Кітаі. На гэта Англія пайсьці ня можа і таму конфэрэнцыя адкладаецца. А тымчасам блёкада трывае. Выказваецца і іншае тлумачэньне палітыкі Англіі. Англія дапушчае, што Японію падтрымлівае Нямеччына і што толькі тая ці іншая перамога над Нямеччынай зможа спыніць і канфлікт на Далёкім Усходзе. Гэтым, быццам, тлумачыцца факт нездэцыдаваньня Англіі на Дал. Усходзе і яе рашучая антынямецкая палітыка ў Эўропе.

Трэці канфлікт, японска-савета-мангольскі, або проста **японска-савецкі,** здаецца мае лёкальнае значэньне. За апошнія два тыдні адбываліся бітвы паміж японска-маджурскай і савецка-мангольскай арміямі, галоўна каля возёра Буір-Нор. Паводле японцаў, перамога, быццам, асталася за імі: савецка-манольскае войска прымушана было адступіць з Манджурыі, куды ўварвалася, прыгэтым Саветы страцілі адных самалётаў больш 500 штук. Саветы не падавалі ніякіх камунікатаў і таму немагчыма сьцьвердзіць паколькі японскія весткі праўдзівыя.

## АНГЛІЙСКА-САВЕЦКІЯ ГУТАРКІ.

Спэцыяльны англійскі дыплямат Стрэнг, высланы ў Маскву для перагавораў аб ваенным саюзе з Масквой, усьцяж атрымоўвае новыя інструкцыі ад свайго ўраду і прадстаўляе іх Молатаву, а саюзу ўсё няма. Дзеля таго, што апошнія інструкцыі Стрэнгу не пададзены да публічнага ведама, невядома хто вінават у тым, што перагаворы гэтак марудна цягнуцца і ўсьцяж астаюцца бязрэзультатнымі. Кажуць, быццам Англія згадзілася на ўсе савецкія варункі. Іншыя дадаюць, што згадзіўшыся на гваранцыю прыбалтыцкіх дзяржаў, Англія паставіла Саветам за варунак, каб яны загварантавалі незалежнасьць Галяндыі, Швайцарыі. Саветы ад гэтага адмовіліся і паклікаліся на тое, што гэтыя дзяржавы дагэтуль ня прызналі Саветаў, дык як можна даваць ім савецкую гваранцыю. А калі Англія гэтага варунку зраклася, Саветы быццам зажадалі, каб Польшч і Румынія загварантавалі ім заходнія граніцы ды каб у склад францускага ўраду ўвайшлі камуністыя. Трудна сказаць, наколькі гэтыя весткі адказваюць сапраўднасьці. У вапошніх днях газэты падалі, быццам у Маскву выбіраецца ведамы францускі гэнэрал Вэйганд, відавочна на падмогу Стрэнгу. Аб значэньні маскоўскіх перагавораў мы пішам на іншым месцы.

## НЯМЕЦКІЯ ПЛЯНЫ АДНОСНА ПОЛЬШЧЫ.

Польская прэса піша, што калі-б нават Гданск вярнуўся да Нямеччыны і калі-б Нямеччына атрымала экстэрыторыяльную аўтастраду праз польскі „калідор“, дык і тады нямецка-польскі спор ня быўбы вычарпаны, бо жаданьні нямецкія адносна Польшчы куды большыя. Якія-ж гэта жаданьні? „Kurier Polski“ (14.VII.), апіраючыся на весткі атрыманыя ў Варшаве праз Лёндан за пасярэдніцтвам агэнцыі „Pap“ падае, што нямецкія пляны адносна Польшчы былі разпрацаваны ў Бэрліне яшчэ раньняй вясной сёлета. Пададзены яны былі да ведама выдатных нямецкіх гэнэралаў, палкоўнікаў і палітыкаў на адумысловай тайнай зборцы, на якой быў прачытаны адпаведны рэфэрат. Паводле агэнцыі „Pap“ зьмест рэфэрату адносна Польшчы быў наступны: „З гледзішча стратэгічнага Польшч у сяньняшняй сваей форме ёсьць для нас (чытай Немцаў **зац. рэд.)** шкодная як саюзьнік і як праціўнік. Каб яна зрабілася карысным для нашай стратэгіі дзейнікам, трэба яе абясьсіліць, пакідаючы дзяржаву, але адначасна адбіраючы ёй здольнасьць мілітарную і палітычную шляхам перарэзаньня яе найважнейшых артэрыяў і давядзеньня яе да фэдэралізму. Ключом сытуацыі ёсьць для нас Гданск і паморскі калідор. Гданск і калідор павінны быць наўперад і пачарзе далучаны да Нямеччыны. Парашок гэты трэба пасаладзіць, даючы Польшчы рэкомпэнсату з балтыцкіх зямель. Насельніцтва гэтых зямель, падараваных Польшчы, пастараецца само, каб новы здабытак стаўся для Польшчы „wyrostkiem robaczkowym“ у стане завагненьня. Гэткая разьвязаньне гданскай справы аслабіць вялікадзяржаўнае становішча Польшчы. У гэтым самым часе мы прыпомнім балтыцкім дзяржавам, што іхняя незалежнасьць цалком залежыць ад нашай добрай волі.

У падобнай сытуацыі, пакінутую Польшчу можна будзе лёгка пераканаць, каб яна зраклася Богуміна, за які маглаб атрымаць частку Славацыі.

Калі адначасна і раўналежна мы будзем вясьці пляновую нутраную працу ў Польшчы, дык можна будзе дабіццца гэткага стану рэчаў, у якім можна будзе ахвяраваць Польшчы помач пры ўспакаеньні нямецкай меншасьці і запрапанаваць польскаму ўраду ўвясьці дэцыдуючую зьмену дзяржаўнага ладу і стварэньне трох напалову аўтаномных правінцыяў.

Толькі тады мы дойдзем да мэты нашых імкненьняў. У гэтых напалову аўтаномных правінцыях расьліб імкненьні да самастойнасьці і пашырэньня граніц. Выклікаліб яны дакладна рэгуляваны націск на граніцы Расеі. Магчымасьць рэгуляваньня палітычнай тэмпэратуры на Ўсходзе асталасяб назаўсёды ў нашых руках.“

Аб сябе К. Р. дадае, што ня трэба „натарыяльнага“ дакумэнту каб праканацца, што !менна гэткія, а ня іншыя ёсьць нямецкія пляны адносна Польшчы, апрацаваныя тады, калі тут адбываліся паляваньні, візыты, шуканьні „ідэалаў“ у Бэрліне, пагрозы грамадзянству.

## КАЛЯ ГДАНСКА.

Аб гэтай справе мы пішам на іншым месцы. Тут зацемім, што ў першых днях ліпня, калі атмасфэра ў Гданску крыху „ачысьцілася“, газэты пісалі, што польскі ўрад зажадае ад гданскага сэнату дэмілітарызацыі места (зьнясеньня абаронных і іншых фортыфікацыяў), распушчэньня гданскага корпусу ахвотнікаў, які там стварыўся і адасланьня ўсяго атрыманага матар'ялу назад у Нямеччыну. Аднак вестак, каб гэтае жаданьне было пастаўлена, газэты не падалі. Затое 10.VII. выступіў у справе Гданска з прамовай Чэмбэрлен, зьмест якой быў апрацаваны ў паразумленьні з Парыжам і Варшавай. У гэтай прамове Чэмбэрлен падчыркнуў волю Англіі прыйсьці Польшчы з помаччу ў прыпадку, калі6 Нямеччына аднастаронна хацела зьмяніць палажэньне ў Гданску і каліб Польшч, у вадказ на гэта, выступілаб супроць Гданска. Чэмбэрлен гаварыў такжа і аб „мірным“ заканчэньне гданскай справы шляхам паразумленьня між Нямеччынай і Польшачай, аднак пры цяперашнім становішчы абедзьвюх дзяржаў, гэта выдаецца немагчымым. Хіба адна зь іх пайшла-б на ўступства.

## ДЫПЛЯМАТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ ВОСІ.

Калі кіраўнікі англійскай і францускай палітыкі ў вапошнім часе выступалі даволі часта з важнымі прамовамі, Муссоліні І Гітлер маўчалі. Муссоліні, заявіўшы ў вапошняй сваей прамове ў Турыне, што ён сказаў усё, а цяпер загаворыць народ, якбы астаецца верным гэтаму сказу. Гітлер да часу абходу 25 гадавіны перамогі немцаў над расейцамі пад Таннэнбэргам, які адбудзецца ў канцы жніўня, відавочна такжа выступаць з прамовамі ня зьбіраецца. Ажывілася затое дыпляматычная дзейнасьць восі, У першых днях ліпня ў Бэрлін прыяжджаў баўгарскі прэм'ер Кіосэйванаў. Казалі, што гэты прыезд здэцыдуе аб далучэньні Баўгарыі да восі Рым-Бэрлін, тым больш, што Нямеччына ўспомніла аб баўгарскіх рэвіндыкацыях. Аднак, гэтым разам, да саюзу з восьсю не дайшло. Выданы камунікат гаворыць толькі аб супрацоўніцтве палітычным, гаспадарчым і культурным Баўгарыі з Бэрлінам. Італьянскі мін. зам. спр. гр. Чыяно паехаў у Мадрыд, відавочна каб выясьніць становішча гэн. Франко. Побач з гэтымі візытамі прыбалтыцкія дзяржавы (Латвію, Эстонію, Фінляндыю) адведала нямецкая ваенная місія, а ходзяць чуткі, быццам туды мае выбрацца і Рыббэнтроп.

---

аснове напісаных дагэтуль вершаў трудна сказаць ў чым паэт знойдзе сваю „стыхію“. Што да формы вершаў Хмары, дык М. Танк пісаў аб ёй наступна: „Большасьць яго твораў вымагае грунтоўнай апрацоўкі. Хаотычны слоўнік, нэрвовае шуканьне формы, нясумернае награмаджэньне пабочных абразоў гразіць перарадзіцца ў хранічныя недахопы і шарахаватасьці“ (гл. „Беларускі Летапіс“ № 4-5 за 1939 г.). Магчыма, што на гэту крытыку Танка, Хмара напісаў верш „Мы“, у якім апраўдвае кантаватасьці вершаў... ілотскім паходжаньнем літаратурнага маладняка. Гэта паходжаньне быццам, дазваляе „ілотскім паэтам“ пісаць як хочуць і з гледзішча формы ня можна ім рабіць ніякіх закідаў, бо яна іх не абавязвае. Калі нашае прыпушчэньне што да гэнэзы вершу „Мы“ правільнае, дык трэба сказаць, што Хмара ня мае рацыі, а прысуд Танка астаецца ў поўнай сіле. Усё-ж трэба заўважыць, што апошнія вершы Хмары (1938—1939 г.) з гледзішча формы куды лепшыя ад ранейшых (1935—1937), што сьведчыць аб поступе паэта.

Хмара піша такжа прозай (гл. апавяданьні „Кантрабанда“, „Песьні Палесься“, „Бо такое жыцьцё“, „Рыбакі“, зьмешчаныя ў кн. І і ІІ „Калосься за 1939 г.). Калі ў вершах „бунтарнасьць“ Хмары не знайшла яшчэ свайго рэчышча, дык у прозе Хмара цалком яе апанаваў. Апавяданьні Хмары прозай добра вытрыманы што да разьвіцьця тэмы, адзначаюцца пукатай вобразнасьцю ды глыбокай сапраўднасьцю. Можна сказаць, што ў прозе Хмара ўжо знайшоў сваё пакліканьне. Трэба жадаць, каб Хмара зьвярнуў вялікшую ўвагу на гэты бок свайго творства і часьцей друкаваў свае апавяданьні, а такжа і повесьці... Праўда, шмат у яго палескіх правінцыяналізмаў, але гэта ня ёсьць заганай. Само сабой разумеецца, што гэтае пажаданьне трэба аднесьці і да паэзіі Хмары, ў якой ён, між іншым, такжа скупы. Што да тэматыкі вершаў трэба пажадаць, каб Хмара не выбіраў тэмаў напалову пустых (прыкл. верш „У горадзе“), ды больш зацікавіўся тэматыкай нацыянальна-беларускай.

## ЗАСЛУЖАНАЯ НАГАРОДА.

Ведамы беларускі дзеяч др. Ст. Грынкевіч за свае навуковыя працы атрымаў першую нагароду на Зьезьдзе дахтароў псыхіятраў усяе Польшчы. Зьезд гэты адбыўся сёлета на Сёмуху ў Хорашчы каля Беластоку („Chr. Dumka“ 10.VII.).

---

**Беларусы, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт“. Пашырайце яго пасярод сваіх суседзяў і знаёмых! Присылайце складкі і ахвяры!**

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski.

Druk. M. Bogatkiewicza i Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.